Гродна
№7 (465),
26 сакавіка 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Міфы пра Вялікі пост




**НАКОНТ ПЕРАЖЫВАННЯ ВЕЛІКАПОСНАГА ПЕРЫЯДУ Ў СУПОЛЬНАСЦІ КАТОЛІКАЎ ХОДЗЯЦЬ ЛЕГЕНДЫ. НЕКАТОРЫЯ ЛІЧАЦЬ, ШТО Ў ГЭТЫ ЧАС ТРЭБА АДМОВІЦЦА АД СПАЖЫВАННЯ МЯСА, СЫРУ І ТВАРАГУ, ЗАКРЫВАЦЬ ВУШЫ, КАЛІ ПАБЛІЗУ ГУЧЫЦЬ МУЗЫКА, "ВЫКЛІКАЦЬ" ЦЯРПЕННЕ З НАМЕРАМ, ШТО ГЭТА ПАТРЭБНА БОГУ... У ЧЫМ ЖА ВЕРНІКІ ПАМЫЛЯЮЦЦА? АДКУЛЬ КАРАНІ ІЛЖЫВЫХ ПЕРАКАНАНАСЦЕЙ? РАЗБІРАЕМ НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ МІФЫ.**

● працяг на с. 4

## Каляндар падзей

**26 сакавіка**
*IV Нядзеля Вялікага посту, якая называецца Нядзеляй радасці (Laetare).*

**2 красавіка**
*V Нядзеля Вялікага посту. У святынях засланяюцца крыжы і абразы Пана Езуса.*

**9 красавіка**
*Нядзеля Мукі Пана (Пальмовая). У гэты дзень у святынях бласлаўляюцца вербачкі.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Красавік**
*Аб святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях з нашай дыяцэзіі.*
*Аб развіцці апостальска-малітоўнай справы пакліканняў.*
*Аб дары плённай падрыхтоўкі да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**"Голас Евангелля"**
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

**"Сімвал веры"**
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 4 красакавіка.***

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Вялікі Пост – гэта свежы подых". Папа Францішак**




### IV НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Ян 9, 1. 6–9. 13–17. 34–38**

Праходзячы, Езус убачыў чалавека, сляпога ад нараджэння. Ён плюнуў на зямлю, зрабіў са сліны гразь і памазаў гразззю вочы сляпому, і сказаў яму: "Ідзі, абмыйся ў купальні Сілаам (што перакладаецца «пасланы»)". Той пайшоў, абмыўся і прыйшоў відушчы. А суседзі і тыя, хто бачыў яго раней жабраком, казалі: "Ці не той гэта, які сядзеў і жабраваў?". Адны казалі: "Гэта ён", – а іншыя: "Падобны да яго". А ён сам казаў: "Гэта я". І павялі яго, таго, што нядаўна быў сляпы, да фарысеяў. А ў той дзень, калі Езус зрабіў гразь і адкрыў яму вочы, быў шабат. І фарысеі зноў пыталіся ў яго, як ён стаў бачыць. Ён жа сказаў ім: "Гразь паклаў мне на вочы, я абмыўся – і бачу". Тады некаторыя з фарысеяў казалі: "Не ад Бога гэты чалавек, бо не захоўвае шабату". Іншыя казалі: "Як можа грэшны чалавек чыніць такія цуды?". І падзяліліся яны. Зноў жа кажуць сляпому: "А ты што скажаш пра Яго, бо Ён адкрыў табе вочы?". Той адказаў: "Гэта прарок". Сказалі яму ў адказ: "У грахах ты ўвесь нарадзіўся, і ты яшчэ нас вучыш?". І выгналі яго прэч. Езус пачуў, што выгналі яго прэч, знайшоў яго і сказаў: "Ці верыш ты ў Сына Чалавечага?". Той адказаў: "А хто Ён, Пане, каб я паверыў у Яго?". Езус сказаў Яму: "Ты ўжо бачыў Яго, гэта той, хто гаворыць з табою". Ён жа сказаў: "Веру, Пане", – і пакланіўся Яму.

### ЦІ ЗДАРОВЫЯ ТВАЕ ВОЧЫ ВЕРЫ?

Навукоўцы сцвярджаюць, што большасць інфармацыі ўспрымаецца намі праз вочы. І калі мы трацім зрок, губляем фізічную спраўнасць, становімся залежнымі і пазбаўляемся натуральнага шчасця. Што, аднак, з'яўляецца горшым няшчасцем для чалавека: слепата фізічная ці духоўная?

Невідушчы чалавек з Евангелля меў здаровыя вочы веры. Нягледзячы на сваю немач, ён паверыў словам Езуса, якога не ведаў асабіста. І вера прынесла добры плён: стаў відушчым. Хрыстос аздаравіў разам з вачыма яго душу, каб той, хто вызнаў перад фарысеямі прароцкую місію Настаўніка з Назарэта, мог пазнаць, кім насамрэч з'яўляецца Езус, і атрымаць збаўленне. Фарысеі жа, перакананыя ў сваіх поглядах наконт Хрыста, зачынілі для сябе браму збаўлення, якое толькі Езус можа прынесці чалавеку.

Каго прыпамінае Твая пастава жыцця – аздароўленага сляпога ці відушчага фарысея?

### V НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Ян 11, 3–7. 17. 20–27. 33b–45**

Сёстры паслалі сказаць Езусу: "Пане, той, каго Ты любіш, хворы". Пачуўшы гэта, Езус сказаў: "Гэтая хвароба не вядзе да смерці, але да славы Божай, каб Сын Чалавечы праславіўся праз яе". Езус жа любіў Марту, яе сястру і Лазара. Пачуўшы, што той хварэе, заставаўся два дні на тым месцы, дзе знаходзіўся. Пасля гэтага сказаў вучням: "Пойдзем зноў у Юдэю". Прыйшоўшы, Езус даведаўся, што Лазар ужо чатыры дні ў магіле. Калі Марта пачула, што ідзе Езус, яна выйшла Яму насустрач, а Марыя сядзела дома. Тады Марта сказала Езусу: "Пане, калі б Ты быў тут, не памёр бы брат мой. Але і цяпер ведаю, што аб чым бы Ты ні папрасіў Бога, Бог дасць Табе". Езус сказаў ёй: "Уваскрэсне брат твой". Марта сказала Яму: "Я ведаю, што ўваскрэсне падчас уваскрасення ў апошні дзень". Езус сказаў ёй: "Я – уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць. А кожны, хто верыць у Мяне, не памрэ ніколі. Ці верыш у гэта?". Яна адказала Яму: "Так, Пане. Я веру, што Ты Месія, сын Божы, які павінен быў прыйсці ў свет". Езус глыбока ўзрушыўся і ўсхваляваўся, ды сказаў: "Дзе вы паклалі яго?". Адказалі Яму: "Пане, ідзі і паглядзі". Езус заплакаў. Юдэі ж казалі: "Глядзі, як Ён любіў яго". А некаторыя з іх сказалі: "Ці не мог Ён, які адкрыў вочы сляпому, зрабіць, каб і гэты не памёр?". Езус жа, ізноў глыбока ўзрушаны, ідзе да магілы. Была ж гэта пячора, і камень ляжаў на ёй. Кажа Езус: "Адсуньце камень". Сястра памерлага, Марта, кажа Яму: "Пане, ужо смярдзіць, бо чацвёрты дзень, як памёр". Езус кажа Ёй: "Ці не казаў Я табе, што, калі будзеш верыць, убачыш славу Божую?". Тады адсунулі камень. А Езус узняў вочы і сказаў: "Ойча, дзякую Табе, што Ты пачуў Мяне. Я ведаў, што Ты заўсёды чуеш Мяне. Але сказаў дзеля натоўпу, які стаіць вакол, каб паверылі, што Ты паслаў Мяне". І, сказаўшы гэта, крыкнуў моцным голасам: "Лазар, выйдзі вонкі". І выйшаў памерлы з нагамі і рукамі, абвязанымі палатном, а твар ягоны быў абвязаны хусткаю. Езус кажа ім: "Развяжыце Яго і дазвольце яму хадзіць". Тады многія з юдэяў, якія прыйшлі да Марыі і бачылі, што ўчыніў Езус, паверылі ў Яго.

### ГАЛОЎНАЕ – ВЕРА

Паводзіны Езуса могуць здзівіць кожнага. Навошта дапускаць, каб Лазар – блізкі сябар Настаўніка з Назарэта, якога Ён вельмі любіў – памёр ад хваробы? Ці можа лекар пакінуць пацыента без лячэння, асабліва тады, калі пацыент – блізкая яму асоба?

Цяжка зразумець Езуса з людскога пункту гледжання. Аднак, калі мы ўспомнім, што Хрыстос усемагутны, можам убачыць у Яго дзеяннях Божую логіку. Езус "спазніўся" дзеля хвалы Пана, "каб Сын Чалавечы праславіўся". Гэта было ў планах Усемагутнага, бо не так думае Бог, як чалавек. Можна меркаваць па тым, што больш людзей паверыла ў Езуса пасля цуду ўваскрашэння, чым калі Хрыстос вылечыў бы свайго сябра. Адзіным патрабаваннем Збаўцы для здзяйснення цуду была вера, якую мела Марта.

Задумайся: ці маеш сапраўдную веру, якая згаджаецца з воляй Бога нават тады, калі не разумееш, чаго Ён ад Цябе хоча? Ці Ты заўсёды паслухмяны Богу?

*Кс. Павел Эйсмант*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Пройдзем Крыжовы шлях

*Змяняюцца поры года: зіма саступіла месца вясне. Пасля пачутых у Папяльцовую сераду слоў "Навяртайцеся і верце ў Евангелле" мы таксама стараемся змяняцца ў лепшы бок і годна перажываць Вялікі пост, які для кожнага чалавека павінен стаць "вясной" духоўнага аднаўлення.*

У гэты перыяд цвёрдая глеба нашых сэрцаў павінна быць узрушана, каб з засеяных у ёй зярнят веры і любові ў дзень уваскрасення мог нарадзіцца чаканы плод. Але каб да гэтага дайшло, мы павінны глыбей ахінуцца ў таямніцу Божай любові. Выразней за ўсё яна нам аб'яўляецца ў пакутах нашага Збаўцы. Езус прыняў цярпенне за кожнага чалавека, каб адкрыць яму Неба і вызваліць ад кары пекла.

Касцёл дапамагае разважаць Муку Пана праз літургію. Робіць гэта таксама праз вельмі карысныя для душы набажэнствы Крыжовага шляху і Песень жальбы. Яны дакладна апісваюць цярпенні Збаўцы і пабуджаюць нас шкадаваць за грахі і жадаць выправіць сваё жыццё.

У час Вялікага посту часцей угледаемся ў Крыж Пана, адаруем Яго святыя раны, дзякуем, што для нашага збаўлення Езус прыняў на сябе такія жудасныя мукі. Разам з Ім перажываем усе гэтыя падзеі. Крыж Хрыста з'яўляецца знакам таго, што Бог раздзяліў людскі лёс. З пакорай прыняў пакуты, адзіноту, пагарду і сорам, з любоўю прабачыў тых, хто яго праследаваў. Гледзячы на распяцце, мы ўпэўніваемся, што Божы Сын сапраўды і поўнасцю спазнаў людское цярпенне. Ні боль, ні ганьба, ні самотнасць, голад ці прыгнёт, катаванні, вязніца, страх ці смерць Яму не чужыя.

Крыж прыгадвае, што дарога да хвалы вядзе праз працу і самаадрачэнне. Бо ўваскрасенне Хрыста нельга разглядаць без Яго крыжа. Таму калі чалавек не пройдзе Крыжовы шлях разам з Езусам і не злучыцца з Яго цярпеннем, радасць ад "пустой магілы" змёртвыхпаўстагала Пана будзе няпоўная і павярхоўная. Радасць у хрысціянстве заўсёды прыходзіць пасля пакут, адрачэння, намаганняў... Таму крыж і ўваскрасенне Хрыста непарыўна звязаны з чалавечым лёсам.

Каб ісці з Езусам, чалавек павінен прыняць свае цярпенні, неспакой, няўдачы, расчараванні. Прайсці Крыжовы шлях, знайсці ў ім уласнае жыццё, падаць і ўставаць, каб уваскрэснуць. Павінен таксама, як і Хрыстос, прайсці праз смерць, каб знайсці сапраўднае жыццё. Няма іншага шляху.

**Дарагія Чытачы!**

Мы ўжо на паўдарогі. Нельга забывацца, што перажываем асаблівы час ласкі. Давайце зробім высілак навяртання, да якога былі закліканы на пачатку гэтай пілігрымкі. Нашымі добрымі ўчынкамі вытрам Езусу крываву пот з ілба. Няхай рэгулярны ўдзел у набажэнствах Крыжовага шляху і Песень жальбы будзе нашым уласным трываннем пад крыжом. Знойдзем жа на гэта час, каб Хрыстос у сваім цярпенні не быў самотны. Папросім Яго, каб ачысціў нашыя сэрцы ад усіх думак і пачуццяў, якія паходзяць не ад Бога. Няхай напоўніць нас святлом і любоўю, каб у велікодную раніцу, як св. Марыя Магдалена, маглі з радасцю прывітаць уваскрослага Пана.




# Фацімскі ўрок пакаяння

Ад заклiку да пакаяння і веры ў Евангелле распачаў сваю грамадскую дзейнасць сам Пан Езус: "***Споўніўся час, і наблізілася Валадарства Божае: кайцеся і верце ў Евангелле!*** *(Мк 1, 15)*. Да пакаяння заахвочваў таксама апостал Пётр: "***Дык пакайцеся і навярніцеся, каб знішчаныя былі грахі вашыя, каб прыйшла ад Пана гадзіна палёгкі, і каб паслаў Ён вам таго, хто быў прадказаны, – Езуса Хрыста, якога неба павінна было прыняць да часоў аднаўлення ўсяго, пра што спрадвеку казаў Бог вуснамі сваіх святых прарокаў"*** *(Дз 3, 19–21)*. ***"Кайцеся!"*** – галоўны заклік фацімскага паслання, якое 100 гадоў таму ад Марыі пачуў цэлы свет.

Звяртаючыся да гісторыі аб'яўленняў у Фаціме, заўважаем, што першы заклік да пакаяння і прыняцця духоўных ахвяр скіраваў дзецям анёл супакою (вясна 1916 года). Навучыў іх тады малітве: "О, мой Божа, веру ў Цябе, праслаўляю Цябе, давяраю Табе, люблю Цябе. Прашу, прабач тым, хто не верыць, хто Цябе не праслаўляе, хто Цябе не любіць, хто Табе не давярае". А затым сказаў: "Так маеце маліцца! Сэрцы Езуса і Марыі ўважліва слухаюць вашыя просьбы".

Фацімскі заклік выразна і моцна паказаў нам сучасную праблему: указаў на драму граху, яго распаўсюджанне сярод людзей – цэлых супольнасцей і народаў. Гэтае пасланне было і надалей застаецца актуальным заклікам Бога, скіраваным да нас і сучаснага свету, каб нястомна клапаціліся аб праведнасці сумленняў і выбіралі тое, што прыемнае Пану.

Гаворка не ідзе толькі пра адзінкавыя, перыядычныя, выпадковыя ўчынкі, але, у першую чаргу, пра паставу, што вынікае з практыкавання цноты пакаяння. Гэта нястомнае выпрошванне праз малітву і пакутныя ўчынкі Божай міласэрнасці да сябе і іншых.

У пасланні Марыя зрабіла выразны акцэнт на тым, што абавязковай з'яўляецца пакута не толькі за свае грахі, але і за грахі бліжніх і ўсяго грамадства. Адсюль вынікае неабходнасць прыняцця ахвяр, якія выпрошваюць ласку навяртання і з'яўляюцца ўзнагароджаннем за зло, за ўсю несправядлівасць, учыненую Богу і бліжнім, а таксама Беззаганнаму Сэрцу Марыі. Кожны грэх мае грамадскае вымярэнне, крыўдзіць іншых, нават калі з'яўляецца патаемным учынкам адной асобы.

100-ая гадавіна фацімскіх аб'яўленняў з'яўляецца добрай нагодай, каб паспрабаваць змяніць лёсы чалавецтва. На прыкладзе гісторыі XX стагоддзя бачым, што не спрыт палітыкаў і не ваенны патэнцыял у апошні час вырашаюць кірунак падзей. Ім не ўдалося ацаліць свет ад катастрофы 2-ух сусветных войнаў і панавання жорсткіх ідэалогій, аб якіх папярэджвала Марыя ў Фаціме. Шматлікія няшчасці маглі – і могуць таксама сёння – быць аддалены, калі людзі адвернуцца ад сваіх грахоў і пакаяцца.

**Наколькі важна і неабходна пакаянне?**

**Па-першае:** плён сапраўднага раскаяння карысны не толькі для таго, хто каецца, таму што пакутныя ўчынкі служаць многім людзям. Любое дабро мае грамадскае вымярэнне, калі не абмяжоўваецца адным чалавекам.

**Па-другое:** калі чалавек каецца шчыра, а не па-фарысейску, адчувае, што яго сэрца становіцца лёгкім. Пан Езус сказаў: "Зважайце ж на сябе, каб сэрцы вашыя не былі абцяжараныя свавольным жыццём і п'янствам, і жыццёвымі клопатамі" (Лк 21, 34).

Пакаянне не патрабуе надзвычайных дзеянняў, а толькі адрачэння ад граху і здзяйснення пакутных учынкаў: малітвы, посту і міласціны, а таксама ахвяравання Богу цяжкасцей штодзённага жыцця. Дзеці з Фацімы рабілі гэта амаль нястомна ў намеры грэшнікаў (напрыклад, цярпячы ад смагі падчас спякотнага дня, калі пасвілі статак).

У адказ на заклік Маці Божай давайце здзяйсняць у Вялікім посце пакутныя ўчынкі, бо нам вельмі неабходна разважлівасць і навяртанне, каб былі знішчаны грахі нашыя (параўн. Дз 3, 19).

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Шануй, барані і любі чалавечае жыццё

***25 сакавіка ў каталіцкім Касцёле ў чарговы раз адзначылі ўрачыстасць Звеставання Пана, а разам з ёй – Дзень святасці жыцця. Ужо больш за 10 гадоў ён праходзіць у многіх краінах свету з мэтай абуджэння ў сумленнях грамадскасці сэнсу і каштоўнасці чалавечага жыцця ў любым яго стане.***

## ЖЫЦЦЁ – ГЭТА СВЯТАСЦЬ

У пастырскім пасланні на сёлетнюю ўрачыстасць Звеставання Пана Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі адзначыла, што чалавечае жыццё ад яго пачатку да натуральнай смерці асвечана Богам і належыць Яму. Таму сёння трэба супрацiўляцца цывілізацыі смерці, пагардліваму стаўленню да годнасці чалавечага жыцця, як таксама і несправядлівым законам, што абмяжоўваюць свабоду сужэнцаў у рашэннях адносна перадачы жыцця. У сваім лісце каталіцкія іерархі падкрэслілі, што права на існаванне дзіцяці, якое развіваецца ва ўлонні маці, з'яўляецца непарушным, таму ніякім чынам нельга прымаць негатыўныя рашэнні ў адносінах да яго, як быццам бы гаворка ідзе пра частку цела жанчыны.

У гэтым кантэксце біскупы ўзгадалі словы папы Францішка, які навучае: "Неістотна, будзе табе адпавядаць гэтае новае жыццё ці не, мае яно ў сабе рысы, якія табе падабаюцца, ці не, адпавядае тваім планам і марам ці не. Дзеці – гэта дар. Кожнае дзіця выключнае і непаўторнае. Дзіця любяць таму, што гэта дзіця: не таму, што яно прыгожае, альбо таму, што яно такое і такое, але таму, што гэта дзіця! […] Кожную цяжарную жанчыну з любоўю прашу: дбай пра сваю радасць, няхай ніхто не адбірае ў цябе ўнутранай радасці мацярынства. Гэтае дзіця заслугоўвае тваёй радасці. Не дазволь, каб страх, няпэўнасць, каментарыі іншых асоб альбо клопаты пагасілі шчасце быць Божай прыладай, каб унесці ў свет новае жыццё" (AL, 170–177).

## У БЕЛАРУСІ НА 100 РОДАЎ ПРЫПАДАЕ 25 АБОРТАЎ

Дадзеная праблема дагэтуль застаецца вельмі востраЙ у Беларусі. Каментуючы з'яву абортаў, каталіцкі Касцёл падкрэслівае, што гэта ні што іншае, як генацыд народу, бо "рука Ірада" ў медыцынскіх кабінетах або праз выкарыстанне фармацэўтычных абартыўных прэпаратаў забівае ненароджаных дзяцей.

**Асобы, якія далучыліся да духоўнага ўсынаўлення зачатага дзіцяці, могуць карыстацца мабільным памочнікам "Усынаві жыццё". Дадатак, створаны польскім "Фондам малых ножак", паўстаў, каб сучасным і простым спосабам пашыраць свядомасць усынавіцеляў аб развіцці чалавека перад яго нараджэннем, узмацняць з ім сувязь, прыгадваць пра штодзённую малітву. Духоўныя бацькі маюць доступ да фатаграфій з ультрагукавых даследаванняў (з 6-га тыдня), могуць паслухаць біццё сэрца дзіцяці (з 3-га тыдня) і прачытаць штодзённае пасланне малога, які з радасцю расказвае пра свой свет. Усё гэта спрыяе таму, што людзям, якія моляцца, лягчэй стрымаць 9-месячнае абяцанне.**

Pro-life, або рух "У абарону жыцця", вылучае некалькі асноўных матываў перарывання цяжарнасці.

**•Нежаданне браць на сябе адказнасць як з боку мужчыны, так і з боку жанчыны.**

**•Нестабільныя і неадэкватныя адносіны маці з бацькам зачатага дзіцяці.**

**•Жорсткія рэпрадуктыўныя рамкі: "трэба спачатку davучыцца, а потым нараджаць", жаданне мець канкрэтную колькасць дзяцей і інш. Часам прыходзіцца абараняць дзіця ад яго ўласных мамы і таты, родных, якія кажуць: "Навошта пладзіць галечу!".**

**•Прыярытэт іншых каштоўнасцей: самарэалізацыя, самадастатковасць, пашырэнне спажывецкіх магчымасцей. Сёння наяўнасць дзяцей не лічыцца незвычайным дасягненнем.**

**•У свядомасці грамадства дзеці – гэта пастаянныя трывогі. Соцыум навязвае больш прывабныя ўстаноўкі: "Жыві з задавальненнем", "Бяры ад жыцця ўсё". Таму жанчына часта гатова зрабіць аборт, каб захаваць свой псіхалагічны камфорт.**

## АБАРАНЯЦЬ ЗАЧАТАЕ ЖЫЦЦЁ – ЗАДАННЕ, ЯКОЕ БОГ ДАРУЧАЕ КОЖНАМУ ЧАЛАВЕКУ

Супрацівам пагардліваму стаўленню да годнасці чалавечага жыцця з'яўляюцца ўсякага роду ініцыятывы Касцёла ў Беларусі: розныя формы адукацыі, парафіяльныя сямейныя кансультацыі, малітоўныя і душпастырскія групы, мэтай якіх з'яўляецца падтрымка сем'яў. Менавіта дзякуючы іх малітве і стараннем многія жанчыны, што вырашылі зрабіць аборт, усвядомілі каштоўнасць і годнасць жыцця, якое носяць пад сваім сэрцам, і ў выніку нарадзілі дзіця.

Сярод шырока распаўсюджаных у нашай краіне ініцыятыў – духоўнае ўсынаўленне. Гэта абяцанне канкрэтнай асобы, дадзенае Богу, замест якога з'яўляецца малітоўны абавязак у інтэнцыі ратавання дзіцяці ва ўлонні маці, якому пагражае небяспека і імя якога вядомае толькі Богу. Сутнасць духоўнага ўсынаўлення заключаецца ў спецыяльнай штодзённай малітве ў інтэнцыі дзіцяці і яго бацькоў, адгаворванні адной з таямніц Ружанца, а таксама дабравольна прынятых рэлігійных практыках (напрыклад, ахвяраванні св. Камуніі, посце, выкананні спраў дабрачыннасці).

Гэтая акцыя з'яўляецца дзейсным спосабам выратавання зачатых дзяцей, прыход на свет якіх знаходзіцца ў сур'ёзнай небяспецы. Аднак варта памятаць, што як у кожным бацькоўстве, так і духоўным усынаўленні патрэбна любоў і адданасць дзіцяці. Трэба мець свядомасць, што гэта не проста рашэнне. У той момант, калі чалавек прымае пастанову маліцца ў інтэнцыі ненароджанага, бярэ на сябе адказнасць за маленькага чалавека.

## "КАЛІ ХОЦЬ АДНА МАМА ПЕРАДУМАЕ І ДАСЦЬ СВАЙМУ ДЗІЦЯЦІ ШАНС НАРАДЗІЦЦА, НАШЫЯ НАМАГАННІ НЕДАРЭМНЫЯ"

Такой думкі прытрымліваюцца ўдзельнікі гродзенскай малітоўнай групы "У абарону жыцця" – людзі з адкрытым сэрцам, неабыякавыя да жыцця самых слабых і безабаронных. Сёлета дзякуючы іх намаганням у парафіях горада былі арганізаваны адмысловыя набажэнствы Крыжовага шляху. Падчас іх члены малітоўнай групы разам з вернікамі не толькі разважалі над мукай Езуса Хрыста, але таксама закраналі пытанні абортаў, адмовы ад дзяцей з асаблівасцямі развіцця, вартасці ўсынаўлення, любові і прабачэння.

***"Нам трэба вучыцца будаваць натуральнае і гарманічнае сужэнства, заснаванае на любові і ўзаемапавазе. Бараніць чалавечае жыццё, асабліва ранімае ў мацярынскім улонні, бо дзеці – гэта Божы дар, які трэба прымаць з падзякай і адказнасцю",*** – адзначыла падчас Крыжовага шляху "У абарону жыцця" ўдзельніца групы Аліна Санько. Жанчына заахвоціла вернікаў стаць на бок нявінных і далучыцца да малітоўнага руху.

*Кінга Красіцкая*

**Чарговыя набажэнствы Крыжовага шляху "У абарону жыцця" ў Гродне:**

**31 сакавіка**
18.00 – парафія св. Францішка Ксаверыя *(катэдра)*
18.30 – парафія Святога Духа *(Альшанка)*

**7 красавіка**
18.00 – парафія Найсвяцейшага Адкупіцеля *(Дзевятоўка)*
18.00 – парафія Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай Маці Міласэрнасці *(Аўгустовак)*




***Я заўсёды прасіла Госпада ў малітве аб добрым мужы. Марыла, што ўсёй сям'ёй мы будзем хадзіць у касцёл і праслаўляць Бога за наш саюз.***

*З будучым мужам мы сустрэліся 5 гадоў таму. Я адразу адчула ў ім нешта роднае свайму сэрцу. Мы бачыліся штодня, заўсёды мелі аб чым пагаварыць. А маглі проста маўчаць, і нам было добра.*

*Малады чалавек паходзіў з непрактыкуючай сям'і праваслаўных. Аднаго разу я збіралася ў касцёл і прапанавала яму пайсці разам. Любы з радасцю пагадзіўся. Пасля прызнаўся, што яму вельмі спадабалася прысутнічаць на Эўхарыстыі і цяпер хоча заўсёды са мной бываць у касцёле. Пазней нарачоны прыступіў да сакраманту споведзі. А 4 гады таму мы павянчаліся.*

*Як і многія сем'і, марылі аб тым, каб Пан блаславіў наша сужэнства на нараджэнне дзяцей. Мінула паўгода, а чаканая цяжарнасць не наступала. Мы занепакоіліся і прайшлі медыцынскае абследаванне. Дыягназ – 100-працэнтнае бясплоддзе, ад якога яшчэ не існуе лекаў на зямлі. Ніколі не думала, што маю сям'ю напаткае такое выпрабаванне.*

*Доўгі час мы з мужам вучыліся жыць з вынесеным прысудам. Ад урачоў, родных і нават бацькоў часта даводзілася чуць парады накшталт "разводзьцеся або рабіце ЭКА". Да праўды, наведвалі ўсякія думкі. Я заблыталася і не ведала, што выбраць: вернасць Богу (а значыць сям'ю) альбо бязбожнасць (зямное шчасце)? У такі цяжкі момант Хрыстос мяне не пакінуў. Пасылаў на маю жыццёвую дарогу духоўных асоб, праз якіх сам прамаўляў. Аднойчы пэўны святар спытаўся ў мяне: "А чаму вы не разглядаеце варыянт усынаўлення дзіцяці? Канешне, ты можаш разысціся з мужам, але тады назаўсёды згубіш супакой у сваёй душы. Памятай, у тваім жыцці 2 галоўных мужчыны – муж і Хрыстос". Словы святара я не забываю па сённяшні дзень.*

*Вярнуўшыся дамоў, распачала размову з сужэнцам аб усынаўленні дзіцяці. На жаль, не адчула яго жадання гаварыць на гэтую тэму. Праз нейкі час зноў вярнулася да набалелага. І мы вырашылі збіраць неабходныя для працэдуры ўсынаўлення дакументы. Пасля таго, як прайшлі некалькіх урачоў, спыніліся. Я зразумела: муж не хоча прыняць чужое дзіця. Мы шмат сварыліся. Я, увогуле, расчаравалася і думала, што паспяшалася выйсці замуж, мажліва, памылілася ў жыцці. Часам здавалася, што больш не люблю сужэнца…*

*Мінуў час, і муж стаў сам гаварыць пра ўсынаўленне. Для мяне гэта было цудам! Зноў пачалі збіраць дакументы. Прайшоўшы неабходныя інстанцыі, сталі кандыдатамі на ўсынаўленне. Дамовіліся, што не будзем прытрымлівацца жорсткіх крытэрыяў: полу, узросту… Канешне, хацелася, каб дзіця было маленькае. Прагнулі ўбачыць яго першыя крокі, пачуць першыя словы. Але ўсё даверылі Богу.*

*Часам моцна перажывалі, што не справімся, не зможам па-сапраўднаму палюбіць. Было страшна: нас чакала новае жыццё, невядомае. Неаднаразова думалі адступіць, але нейкая сіла не давала нам гэтага зрабіць. Памятаю, калі на душы было зусім цяжка, я зайшла ў касцёл і ціха сказала: "Божа, калі Ты хочаш, каб мы прынялі дзіця, дапамажы. Я давяраю Табе наша жыццё". Праз некалькі гадзін да мяне патэлефанавалі са службы апекі і прапанавалі пазнаёміцца з 3-месячнай дзяўчынкай. Вось так мы з дачушкай упершыню і ўбачыліся.*

***Ужо паўгода, як яна з намі. Мы з мужам і не думалі, што Бог шчодра нас блаславіць і адорыць такім цудоўным падарункам. Адчуваем сябе сапраўднымі бацькамі. Самае галоўнае, што Хрыстос аднавіў нашы з сужэнцам адносіны. І мы сталі поўнай і шчаслівай сям'ёй.***

*Марыянна, г. Гродна*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Адысці ад зла, навучыцца рабіць дабро і дазволіць Пану весці сябе наперад – вось шлях вялікапоснага навяртання. Кожны штодзённа робіць нешта кепскае, і нават самы святы грашыць 7 разоў на дзень. Праблема ў тым, каб не прызвычайвацца жыць падобным чынам і пастаянна адмаўляцца ад таго, што атручвае душу. Варта штодня вучыцца рабіць нешта, каб стаць лепшым, чым дзень таму. Адыходзіць ад зла і навучыцца рабіць дабро: вось правіла навяртання.*

*Навярнуцца – не значыць прыйсці да феі, якая пераменіць з дапамогай чарадзейнай палачкі. Не! Гэта шлях. Вернікам неабходны адвага, каб адысці ад зла, і пакора, каб навучыцца рабіць дабро. Яно ж абавязкова павінна выяўляцца ў канкрэтных учынках, а не толькі заставацца на словах. Езус заўсёды спадарожнічае чалавеку на шляху навяртання, і нават калі "грахі будуць, як чырвань, збялеюць як снег" (Іс 1, 18). Адзінае, аб чым Бог просіць, – гэта пакора, бо "той, хто ўзвышае сябе, прыніжаны будзе, а той, хто прыніжае сябе, будзе ўзвышаны" (Мц 23, 12).*

*Фрагмент гамілii, прамоўленай падчас ранішняй Эўхарыстыі ў Ватыкане, 14.03.2017*

### *Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі*



*Людзі пастаянна знаходзяцца ў пошуках рэалізацыі сваіх пажаданняў, задавальнення патрэб. Аднак дасягаючы пастаўленай мэты чалавек часта адчувае асалоду толькі на працягу адносна кароткага моманту. І так адбываецца праз усё жыццё, як быццам людское існаванне зводзіцца толькі да пагоні за задавальненнем эгаістычных жаданняў. З-за гэтага ў выніку ўзнікае стомленасць і яшчэ большая незадаволенасць тым, што чалавек мае. Той, хто не выходзіць з цеснага кола выключна матэрыяльных інтарэсаў і клопатаў, паступова губляе сапраўдны сэнс свайго існавання на зямлі і расчароўваецца ў жыцці, часам нават у росквіце сіл і магчымасцей. Абудзіцеся, Браты і Сёстры, пазбаўцеся дэматывуючай дзейнасці д'ябла і ўзгадайце словы прарока Ісаі: "Не бойся, бо Я з табою; не бянтэжся, бо Я – Бог твой; Я ўмацую цябе і дапамагу табе, і падтрымаю цябе правіцаю праўды Маёй" (Іс 41, 10).*

*Гэта першы крок да ўсведамлення чагосьці большага, чым проста механічнае існаванне ў бессэнсоўнасці. Вера заклікае нас да больш шырокага выкарыстання ўласных магчымасцей і пажаданняў. Заклікае да любові ў служэнні, бо менавіта зразуменне служэння і яго выкананне, асабліва ў сучасным свеце, дае магчымасць выйсці з пачуцця дэпрэсіі і страты сэнсу жыцця.*

*Фрагмент Пастырскага ліста ККББ на III Нядзелю Вялікага посту (нядзеля "Карытас")*

# Міфы пра Вялікі пост

## Варта ведаць

◆ *Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны. Цяперашні Апостальскі нунцый ва Украіне ў 2011–2015 гадах выконваў дыпламатычную місію ў Беларусі. Медаль прысуджаны з фармулёўкай "За значны асабісты ўклад у развіццё культурнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Ватыканам", паведаміла прэс-служба прэзідэнта.*

◆ *84-гадовы кс. Францыска Хаўер Аліварэс з дыяцэзіі Туй-Віга (Іспанія), нягледзячы на тое, што выйшаў на пенсію, працягвае сваю душпастырскую паслугу, але ўжо ў інтэрнэце. Вядзе 4 блогі, якія ў суме налічваюць каля 30 млн. наведванняў. Ён піша і збірае з іншых інтэрнэт-старонак навіны з каталіцкага свету, а таксама малітвы, што дапамагаюць перажываць літургічныя перыяды. Публікуе гаміліі, дакументы і іншыя матэрыялы, прызначаныя для святароў. Акрамя таго, актыўны ў сістэме WhatsApp: раніцай высылае разважанні, а вечарам біяграфію святога, успамін якога прыпадае на наступны дзень. Паведамленні атрымліваюць асобы, што загадзя згадзіліся на рассылку, ствараючы такім чынам "віртуальную парафію". Хутка ксёндз адзначыць 60 гадоў святарства.*

◆ *Публікацыі Слугі Божай с. Луцыі дос Сантас, адной з удзельніц марыйных аб'яўленняў з 1917 года, з'яўляюцца самымі папулярнымі на тэрыторыі санктуарыя ў Фаціме. Як падае лісабонскі штотыднёвік "Visão", у мінулым годзе прададзена больш за 35,5 тыс. кніг аўтарства вядомай кармэліткі. Самая папулярная з іх – "Успаміны". Вясной мінулага года фацімскі санктуарый апублікаваў новае, крытычнае выданне "Успамінаў" с. Луцыі. Кніга перакладзена на 19 моў.*

◆ *Пачынаючы з сакавіка, у Жэнеўскім універсітэце (Швейцарыя) выкладаецца каталіцкая тэалогія. Заняткі закранаюць спрэчныя пытанні ў галіне марыялогіі, эклезіялогіі, а таксама ласкі і апраўдання. Лекцыі праводзяць тэолагі з Ліёнскага каталіцкага ўніверсітэта (Францыя). Праграма на будучы семестр яшчэ знаходзіцца на стадыі разгляду. Магчыма, будуць уключаны дысцыпліны "Новы Запавет" і "Этыка". Да гэтага часу ва ўніверсітэце выкладаліся тэмы, якія закраналі праваслаўе, юдаізм і іслам. Каталіцызм быў пад забаронай.*

◆ *Адным з сэндвічаў у меню сеткі рэстаранаў "MCDonald's" з'яўляецца "Філе-о-фіш". Рыбны сэндвіч папулярны сярод кліентаў ужо шмат гадоў. Аднак мала хто ведае, што яго прыдумаў прадпрымальнік-католік Лу Гроен, які жадаў прапанаваць нешта поснае для наведвальнікаў "MCDonald's" у пятніцу. Гісторыя адбылася ў далёкім 1962 годзе ў каталіцкім квартале Цынцынаці (ЗША). Сёння сэндвіч асабліва папулярны сярод людзей, якія не ядуць мяса або маюць якія-небудзь дыетычныя ці рэлігійныя абмежаванні.*

*credo-ua.org; pch24.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

---

● працяг са с. 1

### ПАДЧАС ПОСТУ НЕЛЬГА СПАЖЫВАЦЬ МЯСА

На самой справе, выключэнне з рацыёну дадзенага прадукта (акрамя пятніцы і Папяльцовай серады) не з'яўляецца абавязковым. Гэта, хутчэй, велікапосная пастанова ўтаймоўвання плоці. Адкуль жа ўзялося такое спрэчнае меркаванне? Некалькі стагоддзяў таму ў Касцёле было неабходным устрыманне ад мяса і малочных прадуктаў. Роўным чынам традыцыя ў адносінах трапезы магла быць з лёгкасцю запазычана ў братоў праваслаўных. З-за няведання людзі і далей перадаюць яе з пакалення ў пакаленне. Па сёння Царкоўны Статут прадпісвае асабліва строгія правілы ў першую і апошнюю нядзелі Вялікага посту. Праваслаўным вернікам не дазваляецца ўжываць нават яйкі і жывёльны тлушч. У будні пры гатаванні ежы імі не выкарыстоўваецца алей.

Праз Вялікі пост вернікі рыхтуюцца да свят Уваскрасення Пана

### ПОСТ АБАВЯЗКОВЫ ДЛЯ ЎСІХ

Пятнічная посту на працягу ўсяго года абавязаны прытрымлівацца вернікі з 14-гадовага ўзросту. Пост у Папяльцовую сераду і Вялікую пятніцу абавязвае католікаў ад 18 да 60 гадоў. "Аднак пастырам, а таксама бацькам варта паклапаціцца, каб і тыя, для каго ў сілу больш юнага ўзросту закон посту і ўстрымання яшчэ не абавязковы, выхоўвалі ў сабе сапраўднае пачуццё пакаяння" (кан. 1252 ККП).

Падчас пятнічнага посту (акрамя Вялікай пятніцы) Касцёл дазваляе спажываць мясныя прадукты вернікам, якія выконваюць фізічную працу або знаходзяцца ў падарожжы. Выключэнні з захавання посту робіцца таксама для цяжарных жанчын, састарэлых і хворых.

**Ужо ў ІІ стагоддзі для лепшай падрыхтоўкі да перажывання Пасхальных свят было дададзена 2 дні посту перад імі. Аб гэтым узгадвае Тэртуліян (каля 240 г.). Св. Ірэней (каля 202 г.) піша, што ў яго часы для ўшанавання 40-дзённага посту Пана Езуса быў прадпісаны пост 40-гадзінны (абавязковы ў Вялікую пятніцу і Вялікую суботу). У ІІІ стагоддзі посцілі ўжо цэлы тыдзень. Урэшце на пачатку IV стагоддзя быў уведзены 40-дзённы пост. Упершыню аб гэтым успамінае св. Атаназій з Александрыі ў пастырскім лісце з нагоды Вялікадня 334 года. У IV стагоддзі ў Рыме пост распачынаўся за 6 тыдняў да ўрачыстасці Уваскрасення Пана. Аднак пасля выліку нядзель, у якія ніколі не посцілі, пакаянны перыяд трываў 36 дзён. Таму ў VII стагоддзі дадалі нехапаючыя дні і вызначылі пачаткам Вялікага посту Папяльцовую сераду. Канчаткова гэты дзень як пачатак посту ўмацаваўся ў традыцыі рымскага Касцёла ў 1570 годзе.**

### ЧЫМ БОЛЬШ ЦЯРПЛЮ, ТЫМ БОЛЬШАЯ КАРЫСЦЬ

Пост – не самамэта, а толькі сродак. Вядома, можна вызначыць для сябе вельмі сур'ёзную пакуту, і на працягу 40-ка дзён з цяжарам несці ўскладзены на плечы груз. Але не дзеля гэтага існуе перыяд Вялікага посту. Бог зусім не хоча чалавечых пакут. Адрачэнні і пастановы з'яўляюцца магчымасцю ачысціць сваю душу ад паўсядзённых рэчаў, каб наблізіцца да Стварыцеля. Галоўнае на дадзеным шляху – дасягнуць духоўнага плёну.

Небяспечна захапіцца сваімі поспехамі ў плане выканання пастаноў. Калі чалавек кругом аб гэтым трубіць, на паверхню паказваецца яго пыха. І на першым плане тады не Бог, а ўласныя вынікі і клопат аб новых рэкордах.

### 40 ДЗЁН ПОСТУ НОСЯЦЬ ЖУРБОТНЫ ХАРАКТАР

Вядома, Вялікі пост перажываецца 40 дзён. Але рамкі гэтага перыяду ахопліваюць 46 (можаце пералічыць самастойна). Чаму так? Нядзеля з'яўляецца днём успаміну ўваскрасення Хрыста або, іншым словам, штотыднёвай Пасхай. "Вернікі спыняюць пост і моляцца стоячы, што ёсць знакам уваскрасення. Таму і «Алелюя» спяваецца кожную нядзелю", – піша св. Аўгусцін.

Незалежна ад розных літургічных форм, якія могуць змяняцца з часам у залежнасці ад касцёльнага парадку, заўсёды застаецца той факт, што нядзеля павінна адзначацца з радасцю, з якой Апосталы прывіталі Настаўніка: "Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана" (Ян 20, 20). Таму гэты дзень тыдня ў Вялікім посце мае больш урачысты характар, чым астатнія дні гэтага перыяду.

### ВЯЛІКІ ПОСТ ПАТРЭБНЫ БОГУ ДЛЯ АБВЯШЧЭННЯ ЯГО ХВАЛЫ

Бог усемагутны. Ён не мае патрэбы ў чалавечым праслаўленні, бо па сваёй сутнасці з'яўляецца Дасканаласцю. Гэта неабходна, перш за ўсё, самому чалавеку. Кожная без выключэння душа жыве ў прагненні злучыцца з Богам, бо Ім створана.

На пачатку Вялікага посту Святы Айцец Францішак заўважыў, што распачаўся час, калі варта задумацца і спытаць саміх сябе: "Што б з намі адбылося, калі б Бог зачыніў перад намі дзверы? Што было б без Яго міласэрнасці, якая ніколі не стамляецца прабачаць і заўсёды дае магчымасць пачынаць нанова?". Праз свядомае перажыванне велікапоснага перыяду вернік адчувае Божае дыханне, якое "ратуе нас ад душнага паветра разрэджанай надзеі, паветра смутку і прымірэння з абставінамі, панікі і варожасці".

**Традыцыйныя назвы нядзель Вялікага посту:**

**I Invocavit** *(Уступная)*
**II Reminiscere** *(Сухая)*
**III Oculi** *(Глухая)*
**IV Laetare** *(Сярэднепосная, званая радаснай)*
**V Judica** *(Чорная, Мукі Пана)*
**VI Palmarum** *(Пальмовая, званая кветкавай)*

Такім чынам, скажоныя погляды на нейкія рэчы робяць чалавека залежным ад таго, што не прыносіць яму карысці ў духоўным плане. А гэта воляй-няволяй прымушае задумацца над усімі рэчамі, якія здзяйсняем у сваім жыцці.

Варта ўсведамляць, што пазіцыя асобы, якая сумняваецца і шукае праўды, з'яўляецца правамернай. З-за яшчэ нядаўняй складанай сітуацыі з вызнаннем веры ў Касцёле на Беларусі ў рэлігійным пазнанні ёсць жахарол існуюць прабелы. А таму запаўняць гэтыя лакуны, пачынаючы са свайго светаўспрымання, – першачарговая задача кожнага верніка.

*Ангеліна Пакачайла*

---




***У адну з субот у парафіі Маці Божай Тройчы Цудоўнай у Мастах адбылася чарговая штомесячная малітоўная сустрэча. У гэты раз яна была прысвечана тэме пакаяння.***

*Пробашч парафіі кс. Віктар Ханько на пачатку пропаведзі разважаў над радкамі з Евангелля: "Не кожны, хто кажа Мне «Госпадзе! Госпадзе!» увойдзе ў Валадарства Нябеснае, але хто выконвае волю Айца Майго Нябеснага" (Мц 7, 21). Святар нагадаў прысутным пра тое, што само знаходжанне ў касцёле, так званая "рэлігійнасць" і нават малітва не з'яўляюцца праявай жаданых адносін з Богам, якіх Ён прагне. Важны матыў. Кс. Віктар казаў пра 3 магчымыя прычыны для малітвы: страх, боль і "так робяць іншыя". У той час як адзіным Богу заўгодным матывам з'яўляецца любоў. Вось закахаўся неахайны хлопец – і змяніў свае звычкі, стаў сачыць за сваім знешнім выглядам. На гэта паўплывала не незадаволенасць бацькоў ці ціск з боку акружаючых, а менавіта любоў да дзяўчыны. Таксама і для хрысціяніна матывам да кожнага дзеяння павінна быць любоў.*

*Чалавеку цяжка самому разабрацца ў сабе. Ён мае патрэбу ў дапамозе Пана. Святар акцэнтаваў увагу на выключнай ролі Духа Святога, без якога вернік не здольны ўбачыць раны Хрыста. Чалавек павінен пусціць Духа, каб той ачысціў яго і паказаў корань-прычыну адчужанасці ад Бога, ад праўды пра сябе, указаў на няправільны матыў, шаблон, з якім асоба прывыкла існаваць па жыцці. Гэта непрыемна. І, на жаль, чалавек наўрад збіраецца змяняць тое, што ўжо столькі часу лічыць нормай: адкараскацца б малым... Але Бог хоча ад чалавека кардынальных змен.*

*Дух Святы прагне закахаць нас саміх у сябе, указаць на сапраўдны матыў жыцця, якім з'яўляюцца не знешнія абставіны, людзі, традыцыі, а любоў. Па нашым жаданні Ён прабівае сардэчную абалонку, за якой хаваецца горкая праўда аб саміх сабе. У Святым Пісанні гаворыцца: "З сэрца выходзяць ліхія намыслы" (Мц 15, 19). І калі чалавек адкрываецца на гэтую праўду, прымае яе, імкнецца змяніцца, ён перажывае пакаянне. "Калі балюча, дрэнна, баліць сумленне – гаворыць маё эга, – заўважае кс. Віктар. – Шкадую за тое, што прычыніў боль сабе і блізкім, што пасля майго граху пакутуе іншы чалавек – гэта раскаянне, але яшчэ не пакаянне. Пакаянне – гэта калі я бачу плач Езуса, бачу Яго раны, нанесеныя мною. Вазьміце адказнасць за смерць Хрыста! Вазьміце адказнасць за сябе...".*

***Працэс унутранага пакаяння і змен праз асабістыя адносіны з Езусам называецца метаноя. Няхай жа час Вялікага посту з адпаведнымі традыцыямі і абрадамі стане для кожнага хрысціяніна спосабам перажывання асабістай метаноі: першай кардынальнай ці чарговай у сваім жыцці.***

*Ірэна, г. Гродна*

# За тры тыдні да Вялікадня

ЗДАЕЦЦА, ЯШЧЭ НЯДАЎНА ГАЛОВЫ ВЕРНІКАЎ БЫЛІ ПАСЫПАНЫ ПОПЕЛАМ, А НА ГАРЫЗОНЦЕ ЎЖО ВІДНЕЕЦЦА ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ. ЗА ПЛЯЧЫМА – АМАЛЬ ПАЛОВА 40-ДЗЁННАГА ШЛЯХУ ВЯЛІКАГА ПОСТУ. ПРАДСТАЎЛЯЕЦЦА ДОБРАЯ НАГОДА ПРЫПЫНІЦЦА І ПАРАЗВАЖАЦЬ АБ ПРАМЕЖКАВЫХ ВЫНІКАХ ПАДРЫХТОЎКІ СВАЙГО СЭРЦА ДА СУСТРЭЧЫ З УВАСКРОСЛЫМ ЗБАЎЦАМ.




Кожны свядомы вернік у Вялікім посце імкнецца зняміцца ў лепшы бок праз канкрэтныя пастановы. На іх палягае духоўнае ачышчэнне душы і вяртанне да Бога з чыстым сэрцам і новым духам. Але ці не здараецца так, што нешта не атрымліваецца або вызначанае заданне аказваецца занадта цяжкім? Тады чалавек расчароўваецца, у яго апускаюцца рукі. Існуе пагроза, што вернік увогуле "сыдзе з дыстанцыі". Пазней перад грабніцай Пана ён схіліць галаву і ахвяруе Езусу свае слабасці. Дзесьці ўнутры разумее: Бог прабачыць. І гэта так. Але да апошняга не трэба здавацца! Нават у самых складаных сітуацыях можна абагаціцца духоўна, выносячы плён з цяжкасцей.

У дадатак, варта суадносіць свой крыжовы шлях з Хрыстовым. Няма нічога ганебнага ў тым, што чалавек перажывае падзенні. Па прыкладзе Збаўцы трэба ўставаць і з пакорай ісці далей на сваю Галгофу, злучаючы ўласныя цярпенні з пакутамі Езуса.

З улікам велікапосных пастаноў прапануем запланаваць на кожны дзень па адной справе для добра ўласнага, Бога і бліжняга. Тым самым кожны з нас можа больш плённа перажыць астатні час посту, ажыццяўляючы міласэрнасць праз якіясьці дробныя жэсты. Гэта неабавязкова вымагае каласальных душэўных затрат – часам дастаткова ўсмешкі і поціску рукі.

Рэдакцыя "Слова Жыцця" склала прыкладную праграму да завяршэння велікапоснага перыяду. Кожны дзень – новая прыгода. Не варта адкладваць на заўтра. Пачні дзейнічаць ужо сёння!

## Да свята Вялікадня застаўся 21 дзень…

### 1. Паразмаўляць з чалавекам
Гучыць трохі дзіўна? Але прапанова, насамрэч, літаральная: знайсці час на бяседу не праз сродкі сувязі (інтэрнэт, тэлефон), а праз жывы кантакт з чалавекам. Незаўважна людзі губляюць уменне весці паўнавартасны дыялог…

### 2. Прыгатаваць сямейную вячэру
Галоўны "інгрэдыент" – родныя за сталом. Не будзе сакрэтам, што ў многіх дамах згаладаліся па гэтай страве.

### 3. Наладзіць старую рэч
Напэўна, у кожнага дома знойдзецца нешта, што патрабуе рамонту. Няхай наладка няспраўнасцей будзе напамінам пра тое, што сапсаваны прадмет неабавязкова выкідваць – яго можна прывесці да ладу.

### 4. Усміхнуцца незнаёмаму чалавеку
Нехта добра заўважыў, што кожны змагаецца ў бітве, невядомай нікому. Найменшае, што ў нашых сілах, – падарыць бліжняму ўсмешку. Гэта можа падтрымаць чалавека ў цяжкі час.

### 5. Памаліцца ў інтэнцыі, у якой ніколі не маліўся
Іх, вядома, мільёны. Няхай велікапосная малітва будзе своеасаблівым адкрыццём на прасторы духоўных медытацый.

### 6. Ахвяраваць дзённы пост за чысцовыя душы
Як пісала ў "Дзённічку" св. Фаустына Кавальская, клопат пра іх збаўленне акупляецца шматкроць. Пасля асягнення Неба душы пры Божым алтары памятаюць пра чалавека, які за іх маліўся.

### 7. Пачаставаць бліжняга
Насыціць чалавека ўвагай і клопатам. Няхай жа салодка ад таго, што праз наш дабрачынны жэст нехта адчуў смак жыцця.

### 8. Папрасіць прабачэння за вінаватага
У акружэнні можа знайсціся асоба, якая не жадае ці проста не лічыць патрэбным перапрасіць кагосьці за крыўду. Існуе магчымасць зрабіць гэта за яе, каб крыху аблегчыць боль таму, хто церпіць несправядлівасць.

### 9. Павіншаваць сябе з чарговым днём абуджэння
Няхай раніца стане нагодай праславіць Бога за дар жыцця. У сярэднім, у свеце штодня памірае каля 150 тыс. чалавек. Падзякуй Творцы, што прадаўжаеш зямную вандроўку.

### 10. Пажадаць першаму сустрэчнаму добрага дня
Ці часта мы думаем пра тое, каб пражыць новы Богам дадзены дзень годна? Шмат чаго залежыць ад нас саміх. Хай жа радаснае прывітанне стане напамінам, каб запланаваць добрыя справы.

### 11. Суцішыцца ўвечары перад запаленай свечкай
Сучасны мітуслівы свет моцна сціскае чалавека ў сваіх абдымках. Шэрагу спраў няма канца. А Бог толькі пазірае за сваім стварэннем і моўчкі чакае…

### 12. Прапанаваць бліжняму плячо падтрымкі
Нягледзячы на тое, што чалавек можа ветліва адмовіцца ад дапамогі, няма таго, каму б яна была непатрэбная. Можна пасадзейнічаць у вырашэнні нейкага пытання патаемна, але з упэўненасцю, што дапамога нясе добры характар.

### 13. У сэрцы падзякаваць за ўсе цяжкасці
Некаторым людзям – за магчымасць перажывання складаных пытанняў, Богу – за сілы для іх пераадолення. Вучымся прымаць, бо "тое, што не забівае, робіць нас мацнейшымі!" (Ф. Ніцшэ).

### 14. Выказаць зацікаўленасць справамі суседа
Як часта людзі шмат гадоў дзеляць сцяну ў кватэры, а нічога адзін пра аднаго не ведаюць. Працягнутая для поціску далонь і пытанне "як справы, сусед?" – першы крок да наладжвання дружалюбных адносін.

### 15. Адказаць на дзіцячае пытанне
Не адмахнуцца, не высмеяць, а растлумачыць. Размова павінна адбывацца нароўні. Перш чым лаяць маладое пакаленне, хоць што-небудзь зрабі для яго развіцця.

### 16. Перадаць пасланне "Бог цябе любіць"
Назіраць за акружаючымі і пастарацца адчуць найбольш патрабуючае сэрца, якое прагне Любові. Часам у адносінах паміж чалавекам і Богам патрэбен пасрэднік, які адкрые сляпому вочы на, здавалася б, відавочнае.

### 17. Засяродзіцца на Божым слове
Далёка не ў кожнага Святое Пісанне з'яўляецца настольнай кнігай. А разважаючы над Бібліяй, можна знайсці адказы на ўсе пытанні, пачуць, што менавіта да Цябе зараз прамаўляе Усявышні.

### 18. Паглядзець хрысціянскі фільм
Запланаваць прагляд кінастужкі з карысным зместам у альтэрнатыву марнаму баўленню часу перад тэлевізарам ці камп'ютарам.

### 19. Прапанаваць сяброўства святому
Здараецца, не пра ўсё можам расказаць таварышу, а нават Богу (хоць і разумеем, што ад Яго нічога не ўтоіш). А святы – той жа чалавек, які меў такія ж слабасці і грахоўныя схільнасці. Яму прасцей даверыцца і адкрыцца.

### 20. Зрабіць нешта добрае непрыяцелю
У корані няправільна адказваць злом на зло. Памятаем: свет пачынае змяняцца з нас саміх.

### 21. Даць адпачыць Анёлу-ахоўніку
Чалавек па натуры – істота рызыкоўная. Штодня ён трапляе ў нейкія калатнечы, калі Анёлу-ахоўніку даводзіцца абараняць яго душу і цела. Будзем жа насцярожана ўважлівыя да спакус, каб не збочыць з праўдзівай жыццёвай дарогі.

**УСЕ ГЭТЫЯ ПУНКТЫ Ў СІЛАХ ЗДЗЕЙСНІЦЬ КОЖНЫ ХРЫСЦІЯНІН. КАБ ДАДАЦЬ У ПРАГРАМУ НОТКІ АВАНТУРЫЗМУ, МОЖНА НАПІСАЦЬ ПРАПАНОВЫ НА АСОБНЫХ КАРТКАХ І РАНІЦАЙ НЕ ГЛЕДЗЯЧЫ ВЫЦЯГВАЦЬ АДНУ З ІХ. БУДЗЬЦЕ ЎПЭЎНЕНЫ, СВЯТЫ ДУХ ПРАДСТАВІЦЬ ВАМ НЕАБХОДНЫЯ АБСТАВІНЫ ДЛЯ АЖЫЦЦЯЎЛЕННЯ ЛЮБОЙ ДОБРАЙ СПРАВЫ.**

*Ангеліна Пакачайла*







### Святы Айцец адзначыў 4-ю гадавіну абрання на Пасад св. Пятра

**Аргентынскі кардынал Хорхе Марыа Берголіа – першы лацінаамерыканец і першы езуіт, які стаў Біскупам Рыма.**

*Папа Францішак лічыцца адным з самых папулярных Пантыфікаў за апошнія дзесяцігоддзі. Яго назвалі Чалавекам года па версіі амерыканскага часопіса "Time" (2013 год), неаднаразова намінавалі на Нобелеўскую прэмію міру.*

*Мільёны падпісчыкаў чытаюць яго старонку ў сацыяльнай сетцы Twitter. У сваім навучанні Папа ўздымае тэмы міру і вайны, закранае сацыяльныя праблемы. Усебаковы падыход да вострых пытанняў чалавецтва ён здолеў прадставіць у энцыкліцы "Laudato si´".*




### Нацыянальны дзень чытання Святога Пісання адбудзецца ў Польшчы

**Падзея грунтуецца на роздуме над выбраным фрагментам Божага слова. Сёлета гэта будуць цытаты з Пасланння св. Паўла да Галатаў. Дэвізам з'яўляецца заклік "Вазьмі і чытай!".**

*Сярод задач Нацыянальнага дня чытання Святога Пісання – прадставіць вернікам Біблію як культурны код хрысціянскай Польшчы і Еўропы, дапамагчы ў адкрыцці плюсаў супольнага чытання Пісання, накіраваць малітву і медытацыю на выбраную кнігу. Акрамя таго, паказаць людзям асоб, вядомых сваім служэннем супольнаму дабру, прафесійнымі ці спартыўнымі дасягненнямі, якія ў сваім жыцці натхняюцца Божым словам.*

*Падзея мае агульнапольскі характар і будзе праходзіць 30 красавіка.*




### Харваты будуюць найбольшую статую Марыі ў свеце

**Чакаецца, што фігура Маці Божай з Ларэта будзе дасягаць 17-ці метраў у вышыню.**

*Статую Марыі ўзводзяць у г. Прымошцен. Яго жыхары вызначаюцца асаблівай набожнасцю да Ларэтанскай Маці Божай. Штогод у яе гонар 9–10 мая тут праходзяць урачыстасці.*

*Як адзначаюць праектанты, у ясны дзень статую Марыі можна будзе ўбачыць нават з супрацьлеглага ўзбярэжжа Італіі. Дакладная дата завяршэння будаўніцтва яшчэ невядома, але ў адміністрацыі горада адзначаюць, што праект знаходзіцца на фінальнай стадыі.*

*Кінга Красіцкая*

## Праблемы хрысціянства і самасвядомасці сучаснага чалавека абмеркавалі ў Гродне

*Круглы стол, прысвечаны гэтай тэме, адбыўся ва ўніверсітэце ім. Я. Купалы ў межах Дзён філалагічнага факультэта.*



У ім прынялі ўдзел студэнты і выкладчыкі філалагічнага, педагагічнага, гістарычнага факультэтаў, факультэтаў эканомікі і кіравання, матэматыкі і інфарматыкі, камунікацыі і турызму. Сярод запрошаных гасцей – каталіцкія і праваслаўныя святары.

Падчас сустрэчы падымаліся пытанні веры сучаснага чалавека, яго найбольш важныя сацыяльныя і духоўныя патрэбы. Разглядалася роля хрысціянства ў фарміраванні самасвядомасці асобы. У прыватнасці было адзначана, што па колькасці вернікаў хрысціяне сёння ў свеце складаюць большасць – 32%. У той жа час удзельнікі дыскусіі звярнулі ўвагу на несупадзенне дэклараванай канфесійнай прыналежнасці і сапраўднай веры як асаблівага стану душы чалавека, спрабавалі высветліць прычыны гэтай праблемы.

Вялікую цікаўнасць прысутных выклікалі бліц-выступленні прадстаўнікоў каталіцкага і праваслаўнага духавенства. Святары падкрэслілі, што рэлігія накіроўвае чалавека ў патрэбнае рэчышча, каб жыць у гармоніі з Богам. Заахвоцілі маладых людзей прысвяцяць свой розум і пазнаваць сапраўдную гісторыю хрысціянства, у прыватнасці і на нашых землях.

## Парафія Святога Духа ў Гродне распрацавала план будучага касцёла

*Праектаваннем святыні і прылягаючай тэрыторыі займаўся архітэктар Аляксандр Штэн, за плячыма якога вопыт распрацоўкі праектаў касцёлаў у Мастах, Лідзе і Гродне.*



Паводле слоў пробашча парафіі кс. Паўла Салабуды, цяпер над планам працуюць эксперты, якія рыхтуюць неабходную дакументацыю. Наступным этапам стане атрыманне дазволу на будаўніцтва ў мясцовай улады.

"Побач з новай святыняй будзе знаходзіцца парафіяльны цэнтр, у якім размесціцца дом для святароў, а таксама канцылярыя, актавая зала, парафіяльны кіёск, класы для катэхетычных заняткаў і інш., – адзначыў кс. Павел. – На прыкасцёльнай тэрыторыі прадугледжана ўзвядзенне званіцы і стацый Крыжовага шляху".

## Шчучынская парафія ўзбагацілася новымі міністрантамі

*Да літургічнай службы алтара ў касцёле св. Тэрэзы Авільскай далучылася 13 хлопцаў.*



Да ўрачыстасці кандыдаты рыхтаваліся праз удзел у тэарэтычных і практычных занятках. Адмысловыя сустрэчы былі таксама арганізаваны для бацькоў будучых міністрантаў.

Цырымонія прыняцця кандыдатаў у супольнасць літургічнай службы алтара адбылася падчас дзіцячай Эўхарыстыі. Яе ўзначаліў кс. пробашч Вітольд Пяцельчыц SP. Перад сабранымі ў касцёле вернікамі хлопцы склалі прысягу вернасці ў службе Хрысту і Яго Касцёлу, а таксама ўпершыню апранулі літургічную вопратку – комжы.

## У Геранёнах адбылося адкрыццё аднаўленага абраза св. Юзафа

*Літургію ў касцёле св. Мікалая ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.*



На пачатку парафіяльнай урачыстасці святары адкрылі аднаўлены абраз св. Юзафа, які знаходзіцца ў бакавым алтары святыні. Затым пачалася ўрачыстая Эўхарыстыя. Звяртаючыся да сабраных вернікаў з гамілія́й, біскуп Станеўскі асноўны акцэнт зрабіў на пастаці апекуна Святой Сям'і. "Мы глядзім на асобу, якая ў Біблii не сказала ніводнага слова, але сваім прыкладам жыцця і ўчынкамі паказала вернасць у служэнні Богу", – адзначыў іерарх. І заклікаў вернікаў арыентавацца на св. Юзафа, каб быць сапраўднымі сведкамі Божай любові.

Заканчэннем урачыстасці стала сумесная малітва ля абраза св. Юзафа ў інтэнцыі парафіяльнай супольнасці.

## Велікапосныя рэкалекцыі прайшлі ў Юрацішках

*Духоўныя практыкаванні ў парафіі Перамянення Пана правёў а. Андрэй Кваціньскі OFMCap, пробашч парафіі ў Смалявічах.*



Святар дапамог вернікам паглыбіцца ў сэнс тэкстаў Евангелля і глыбей заглянуць у сваё сэрца. Засярodзіў увагу на тым, што Божае слова заўсёды актуальнае, таму падчас св. Імшы неабходна яго слухаць так, быццам адрасавана да кожнага асабіста. Рэкалекцыяніст падкрэсліў, што Пан міласэрны: "Ён любіць кожнага чалавека і прымае нас такімі, якія ёсць. А наша задача – быць перад Богам у праўдзе, цалкам давяраца Яму". А. Андрэй заўважыў, што хрысціяне павінны дзяліцца сваёй верай: "І словы тут не на першым месцы. Галоўнае – жыць у веры, каб людзі, якія з намі побач, бачылі прыклад сапраўднага хрысціянскага жыцця і натхняліся гэтым".

У межах рэкалекцый духоўныя сустрэчы прайшлі ў капліцах у Эйгердах і Ляпешках. Таксама было арганізавана асобнае спатканне для моладзі.

---

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, **спадара Парфіновіча Валерыя Сямёнавіча,** які 28 жніўня 2009 года ў парафіі Васілішкі ўзяў шлюб з Салкевіч Таццянай, просім з'явіцца ў сядзібу суда па адрасе: **г. Гродна, вул. К. Маркса, 4** або патэлефанаваць па нумары: **(8 0152) 75-64-37.**

*Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання спадара Парфіновіча Валерыя ці валодаюць любой інфармацыяй аб месцы яго знаходжання, просім паведаміць у Касцёльны суд.*

## АНОНСЫ

### ДУШПАСТЫРСТВА СТУДЭНТАЎ І СТАРЭЙШАЙ МОЛАДЗІ "OPEN" ЗАПРАШАЕ НА РЭКАЛЕКЦЫІ

**Духоўныя практыкаванні будуць праходзіць з 30 сакавіка па 1 красавіка ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкім).**

**Праграма:**

**30 сакавіка**
19.15 – св. Імша з рэкалекцыйнай навукай;
– духоўная канферэнцыя *(у доме сясцёр назарэтанак)*;
– знаёмства з рэкалекцыяністам;
– размова, адказы на пытанні.

**31 сакавіка**
19.15 – св. Імша з рэкалекцыйнай навукай;
– Крыжовы шлях для моладзі;
– эўхарыстычная адарацыя;
– споведзь.

**1 красавіка**
19.15 – св. Імша з рэкалекцыйнай навукай;
– акт прысвячэння Хрысту перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам, блаславўленне;
– сяброўская сустрэча *(у дольным касцёле)*;
– магчымасць асабістай размовы з рэкалекцыяністам;
– падвядзенне вынікаў.

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ АДБУДУЦЦА Ў АДАМАВІЧАХ

**Духоўныя практыкаванні пройдуць з 31 сакавіка па 2 красавіка ў доме сясцёр кармэлітак, якія арганізоўваюць рэкалекцыі. Пачатак а 12-й гадзіне.**

*Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 029) 267-13-03, с. Паўліна.*

### У ГРОДЗЕНСКАЙ СЕМІНАРЫІ АДБУДУЦЦА РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ПАКЛІКАННЯ

**Духоўныя практыкаванні на тэму "У крыжы збаўленне" пройдуць 7–9 красавіка. Удзельнікі змогуць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі, а таксама ўзбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы.**

На перажыванне хвілін цішыні і разважання над сваім жыццёвым шляхам запрашаюцца юнакі, а асабліва міністранты ад 14-гадовага ўзросту. Аб жаданні далучыцца да рэкалекцый неабходна паведаміць да 3 красавіка. Колькасць удзельнікаў абмежаваная.

*Запіс па тэлефоне: (8 0152) 77-02-34.*
*Адказныя за рэкалекцыі: кс. Валерый Быкоўскі, (8 029) 695-24-69; кс. Андрэй Лішко, (8 029) 744-99-61.*

### КРЫЖОВЫ ШЛЯХ ВУЛІЦАМІ ГРОДНА

**Традыцыйнае набажэнства, якое праводзіць моладзь, адбудзецца 8 красавіка. Распачнецца св. Імшой у 19.00 у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Пасля вернікі пройдуць па Савецкай плошчы да Пабернардынскага ўзгорка, разважаючы над стацыямі Крыжовага шляху Езуса Хрыста.**

*Удзельнікам просьба прынесці з сабой свечкі.*

### ПРАЦЭСІЯ ВУЛІЦАМІ ГРОДНА Ў ПАЛЬМОВУЮ НЯДЗЕЛЮ

**Пачатак у 13.00 на Пабернардынскім узгорку. Удзельнікі пройдуць па Савецкай плошчы да катэдральнага касцёла св. Францішка Ксаверыя, дзе ў 14.00 біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узначаліць св. Імшу.**

Як і ў мінулыя гады, будзе арганізаваны своеасаблівы конкурс, падчас якога гродзенскія парафіі, а таксама моладзевыя суполкі прэзентуюць свае святочныя вербы. Да ўдзелу запрашаецца моладзь дыяцэзіі.

### ТЭМАТЫЧНЫ СЕМІНАР АДБУДЗЕЦЦА Ў БАРАНАВІЧАХ

**Семінар пад назвай "Фацімскае пасланне праз 100 гадоў. Паміж гісторыяй і актуальнасцю" пройдзе 8 красавіка ў Катэхетычным каледжы ім. Зыгмунта Лазінскага. Пачатак у 10.00.**

*Кантактная інфармацыя па тэлефонах: (8 0163) 57-93-14, (8 0163) 57-93-07 (факс), (8 029) 513-57-92; e-mail: callegge@gmail.com.*
*Адрас: г. Баранавічы, вул. Т. Шаўчэнкі, 6.*
*Падрабязнасці на сайце catcollege.by.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ ПРОЙДУЦЬ У НАВАГРУДКУ

**Сустрэча маладых людзей з Гродзенскай дыяцэзіі адбудзецца 6–8 мая ў парафіі св. Міхала Арханёла. Дэвіз сёлетняга спаткання – "Вялікія рэчы ўчыніў нам Бог праз Марыю".**

Запрашаюцца вучні школ і каледжаў, студэнты прафесійных, сярэдне-спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

*Падрабязная інфармацыя і праграма будуць пададзены пазней.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 сакавіка 1975 г.** – кс. Станіслаў Сарока, проб. Вялікія Эйсманты;
**31 сакавіка 1964 г.** – кс. Юліян Бароўка, проб. Рэпля;
**1 красавіка 1946 г.** – кс. Юзаф Савіцкі, проб. Дзятлава;
**3 красавіка 1961 г.** – кс. Стэфан Гародка, проб. Белагруда;
**6 красавіка 1968 г.** – кс. Генрых Герасімовіч, проб. Градаўшчына.

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка **grodnensis.by***

# Беларусь, крыжамі пазначаная

**Вялікі пост стварае асаблівую нагоду, каб задумацца над веліччу і глыбінёй Хрыстовага крыжа. "У крыжы цярпенне, у крыжы збаўленне, у крыжы любові навука...", – спяваем падчас бягучага літургічнага перыяду.**

Адмысловая шыбеніца першых стагоддзяў хрысціянства становіцца прадметам глыбокай пашаны, таму што "вісіць на крыжы Пан, Стварыцель неба", "Валадара ўзносяцца знамёны, таямніца крыжа блізка". Мы з глыбокай пашанай ставімся да гэтай прылады катавання: "крыж Хрыстовы, будзь жа пахвалёны", "крыж святы, з усяго – дрэва найкаштоўнейшае". Крыж Езуса – крыніца збаўлення – становіцца знакам нашай веры, своеасаблівым гербам прыналежнасці да Хрыстовай супольнасці.

На пачатку абраду хрысціянскай ініцыяцыі – падчас удзялення сакраманту хросту – святар крэсліць на лбе таго, хто мае быць ахрышчаны, знак крыжа. Пазней ён будзе спадарожнічаць хрысціяніну да канца зямной вандроўкі. Вернік будзе рабіць яго на сваім целе незлічоную колькасць разоў: "У імя Айца і Сына, і Духа Святога". Шматкроць раскаяўшыся перад Богам, атрымае адпушчэнне грахоў праз знак крыжа, учынены далонню святара ў таямніцы паяднання (споведзі). Распяцце ўкрыжаванага Збаўцы знойдзе пачэснае месца на сцяне роднага дома. У многіх гарадах і вёсках будзе вітаць прыезджых, пастаўленае на скрыжаванні дарог; вітаць і абвяшчаць: "Тут жывуць вызнаўцы Езуса, тут жывуць католікі".


Ля прыдарожных крыжоў вернікі часта збіраюцца на супольную малітву


У шматлікіх вёсках крыжы ўсталяваны на пачатку і ў канцы мясцовасці

На беларускай зямлі крыж сведчыць аб Хрыстовых каранях яе жыхароў, таму што гэты край засяляюць у пераважнай большасці вызнаўцы Езуса: праваслаўныя, католікі і пратэстанты. З часоў так званай "перастройкі" побач з праваслаўнымі прыдарожнымі крыжамі пачалі з'яўляцца шматлікія каталіцкія. Для пазбаўленых уласнай Айчыны, герба, часта нават тоеснасці прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей ён стаў знакам і бачным доказам ідэнтычнасці, асновай веры, патрыятызму, дадаваў сіл і ўпэўненасці ў перамогу дабра над злом. Паколькі "хто крыж разгадае, той не ўпадзе... Калі цябе пакрыўдзілі або паранілі, [...] не ўпадай у роспач, а маліся, прабачай, няхай крыж табе стане гербам...".

Да сёння жыве пераказ вернікаў в. Дуброўнікі (Ваўкавыскі дэканат) пра падзею, якая адбылася праз некалькі гадоў пасля II Сусветнай вайны. Аднойчы туды прыбыў савецкі салдат, які, насміхаючыся з веры мясцовых жыхароў, пачаў страляць па фігуры ўкрыжаванага Хрыста. Затым у нейкай нялюдскай эйфарыі ён выбег на дарогу. Далёка адысці не паспеў: наступіў на ваенны снарад і быў разарваны на маленькія кавалкі.

У 1950-70-я гады адбываўся паўсюдны пераслед вернікаў і планавая сістэматычная атэізацыя. Было разбурана мноства святынь: як каталіцкіх, так і праваслаўных. Некаторыя з іх былі перароблены ў музеі, склады і збожжасховішчы, што знеслаўляла іх сакральны характар. Разгарэлася барацьба і з Хрыстовым крыжом. Адпаведна падрыхтаваным групам былі даручаны злачынныя задачы, між іншым, знішчаць крыжы на могілках і скрыжаваннях, не пускаць дзяцей і моладзь да 18-ці гадоў у нешматлікія адкрытыя святыні і г. д. Некаторыя крыжы з таго часу засталіся дзякуючы таму, што былі схаваны вернікамі побач з разгалістымі дрэвамі, кроны якіх сталі своеасаблівым "ахоўным парасонам".

Можна прыводзіць шмат прыкладаў цудам ацалелых крыжоў і тых, што займаюць годнае месца ў шматлікіх кутках Беларусі. Гонарам і надзеяй напаўняе трыумф распяцця, якое так ахвотна носіць ля сэрца беларуская моладзь. Гэта сведчыць аб тым, што знак укрыжаванага Збаўцы глыбока ўкаранёны ў душы вернікаў. І здаецца, словы песні, якую так ахвотна спявае моладзь у Польшчы, – "Не здыму крыжа з маёй душы, не вырву з сумлення яго, бо крыж д'ябла ўшчэнт разбівае" – тут, у Беларусі, становяцца рэчаіснасцю.

*А. Ян Банькоўскі OFMcap*




# Рэліквіі бл. Міхала Сапоцькі ўнесены ў святыню ў Зарачанцы

Урачыстасць адбылася на заканчэнне велікапосных рэкалекцый у касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Такім чынам парафіяльная супольнасць абрала яшчэ аднаго апекуна і даручыла сябе штодзённай апецы бласлаўлёнага. Рэліквіі з'яўляюцца дарам дапаможнага біскупа Беластоцкай архідыяцэзіі Генрыха Цярэшкі.












## Хто такі Антыхрыст?

*У грэчаскай мове слова "антыхрыст" уяўляе сабой назоўнік "christos" з прыстаўкай "anti-". "Christos" даслоўна азначае "Памазанік" і з'яўляецца эквівалентам габрэйскага слова "Месія". Дарэчы, "Хрыстос" мае менавіта такое значэнне, калі ўжываецца ў адносінах да Езуса. Гэта не Яго прозвішча, як памылкова лічаць многія, але абазначэнне функцыі, задання Збаўцы. Прыстаўка "anti-" мае 2 сэнсавыя адценні: можа азначаць "замест" альбо "супраць". Таму з этымалагічнага пункту гледжання Антыхрыста можна разумець як "таго, хто займае месца Хрыста", "ставіць сябе на Яго месца" ці "супраціўніка Хрыста". Большасць біблеїстаў аддаюць перавагу другому тлумачэнню. У той жа час можна заўважыць, што абодва значэнні не супярэчаць адзін аднаму, а хутчэй узаемна дапаўняюць адно аднаго.*

*Слова "антыхрыст" сустракаецца ў Новым Запавеце толькі 5 разоў, выключна ў Першым і Другім Пасланнях св. апостала Яна. Калі ўважліва супаставім гэтыя фрагменты тэксту, то заўважым, што паняцце ўжываецца як у адзіночным ліку, так і ў множным. Антыхрыстам і Антыхрыстамі ў Святым Пісанні называюцца падманшчыкі і спакуснікі, якія ўводзяць чалавека ў зман і адводзяць ад праўды, бо адмаўляюць уцелаўленне Хрыста: сцвярджаюць, што Езус не з'яўляецца Месіяй. Яны не пранікалі ў супольнасць звонку – выйшлі з самога Касцёла. Хоць пазней ад яго і аддзяліліся, небяспека іх дзеянняў не знікла.*

*Некаторыя сучасныя каментатары і прапаведнікі, асабліва ў апакаліптычна арыентаваных плынях хрысціянства, атаясамліваюць Антыхрыста з якой-небудзь асабліва негатыўнай, на іх думку, асобай. Аднак кожная з такіх ідэнтыфікацый па-свойму непераканаўчая, як і непераканаўчымі з'яўляюцца спробы прадказання даты канца свету і адназначнага ўказання знакаў, нібыта ўжо сёння гэты канец блізкі. Таму адназначная ідэнтыфікацыя Антыхрыста з якой-небудзь гістарычнай асобай цалкам немагчымая.*

*У Бібліі ідэя Антыхрыста не мае асаблівага значэння. Гэта, хутчэй, маргінальны вобраз, пазбаўлены выразных характарыстык і канкрэтных дэталяў. Сярод біблеїстаў нават існуе меркаванне, што Антыхрыст – гэта не столькі канкрэтная асоба, колькі прынцып актыўнага супраціву Богу, які можна бачыць увасобленым у розных людзях розных пакаленняў. Яны адыгрываюць ролю ворагаў Бога і супольнасці Касцёла. Нягледзячы на розныя тлумачэнні, усе біблеїсты згодныя з тым, што галоўная думка Святога Пісання, звязаная з ідэяй Антыхрыста, – гэта ўпэўненасць у канчатковай, адназначнай перамозе Бога над ім, насуперак сіле і глыбіні зла, а таксама рэальнасці пагрозы, якую Антыхрыст сабой уяўляе.*

*Кс. д-р Аляксандр Мацкевіч*
**Паводле grodnensis.by**

# Каталіцкі партал Гродзенскай дыяцэзіі змяніў старонку ў інтэрнэце




Зараз у асноўным меню партала прадстаўлены раздзелы “Дыяцэзія”, “Духавенства”, “Дакументы”, “Мерапрыемствы”. Дзякуючы прапанаванай у іх інфармацыі нават далёкі ад Касцёла чалавек будзе мець дакладнае ўражанне, як жыве і чым дыхае Гродзенская дыяцэзія. Старонкі знаёмяць з яе гісторыяй, адміністрацыяй, структурай, установамі. Любую парафію дыяцэзіі можна знайсці на мапе. Удакладніць расклад св. Імшаў у касцёле і знайсці кантакт з пробашчам.

На галоўнай старонцы адлюстроўваюцца апошнія артыкулы з публіцыстычных рубрык партала. Сярод іх такія, як “Сям’я”, “Цікавыя людзі”, “Псіхалогія”, “Вера”, “Касцёл”, “Святыя”. Там жа можна ўбачыць апошнія абнаўленні з раздзелаў “Навіны” і “Анонсы”. На стартавай старонцы даступны фота- і відэагалерэя. Актыўна спасылка на “Блогі”. Карыстальнік можа пагартаць каталог парафій і задаць хвалюючае пытанне святару. Яго ўвазе прапануецца цытата са Святога Пісання на бягучы дзень і актуальны каляндар з пералікам імянін, свят і адпустаў у дыяцэзіі. Акрамя ўсяго, на сайце ёсць пашукавік. Адкрыта апытанне.

**Партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by прысутны ў віртуальнай прасторы з 2006 года. Супрацоўнікі сайта штодзень клапоцяцца пра асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Сярод найноўшых ініцыятыў рэдакцыі – відэаздымкі ролікаў з удзелам дзяцей і інтэрактыўная рубрыка “Спытайся! Адказвае святар”.**

На працу па візуальным афармленні і ўпарадкаванні кантэнту камандай было затрачана больш за год часу. Рэдакцыя партала ***grodnensis.by*** выказвае сардэчную падзяку ўсім, хто прычыніўся да гэтай нялёгкай справы. Асаблівая ўдзячнасць праграмісту Андрэю Міскевічу, дызайнеру Аляксею Саухіну, фатографу Аляксею Крупіцы. Праз рэалізаваны праект рэдакцыя разлічвае задаволіць сваіх цяперашніх чытачоў і зацікавіць новых.

***Абноўленая версія сайта будзе даступна для карыстальнікаў ужо з 1 красавіка!***

*Ангеліна Пакачайла*

## Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцы Святога Духа на кожны дзень жыцця і пастырскай паслугі, надзейнай апекі святога Заступніка і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху і знакам бязмежнай любові Бога да Вас!

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Ваша Эксцэленцыя, Ксёндз Біскуп Юзаф Станеўскі!**

З нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем Вам сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе спрыяе ў складанай душпастырскай місіі, а Божы Провід чувае кожны дзень, апраменены надзеяй, радасцю, людской добразычлівасцю. Святарскае сэрца заўсёды турбуецца, Каб адшукаць заблукалыя сэрцы, Каб паказаць ім святло невядомае Ці падтрымаць тыя душы, што стомлены. Шчасці Божа!

*Апостальства “Маргарытка” і парафіяне з Беняконяў*

**Ваша Эксцэленцыя, Ксёндз Біскуп Юзаф Станеўскі!**

Віншуем Вас з Імянінамі і Днём нараджэння! Шчыра жадаем Божай ласкі, апекі святога Заступніка, моцнага здароўя, радасці, задавальнення ад душпастырскай паслугі. Мы шчаслівыя, што ў такім далёкім закутку Гродзеншчыны не адзін раз бачылі Вашу добразычлівую ўсмешку, чулі мудрыя павучанні, адчувалі шчодрасць і цяпло Вашага сэрца, напоўненага Хрыстовай любоўю і адкрытасцю да людзей. Няхай Ваш шлях будзе блаславёны, шчаслівы і плённы.

*З удзячнасцю і малітвай, парафіяне з в. Анжадава*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Усемагутны ўзмацняе Вас і адорвае сваім блаславеннем на кожны дзень жыцця. Няхай Божае слова, якое засейваеце ў людскіх сэрцах, прыносіць шчодры плён, Маці Божая атуляе сваім плашчом, а побач будуць добрыя і чулыя людзі. Шчасці Божа!

*Канюк Марына, Шаропава Алёна*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў паслузе на ніве Пана, Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху, а таксама штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і добразычлівых людзей побач.

*Вернікі з вёсак Вігушкі, Галімшчына і Сакавічы*

**Паважанаму Ксяндзу Эдуарду Сінкевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, сіл і стойкасці на кожны дзень, а таксама нястомнай радасці. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі ласкамі.

*З павагай, “Легіён Марыі” і група “Добрага Пастыра” з парафіі Божай Міласэрнасці, Гродна-Вішнявец*

**Вялебнай Сястры Гарэцці Мількевіч**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні ўсяго найлепшага: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, штодзённай радасці і поспехаў. Няхай Бог Айцец дадае Вам сіл, Святы Дух надзяляе мудрасцю і супакоем, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, нястомна апекуецца і абараняе ад зла.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай на Вашым твары заўсёды яснее ўсмешка, а вочыззяюць ад радасці.

*З малітвай, Касцёльны камітэт і Францішканскі ордэн свецкіх з в. Субботнікі*

**Паважанаму Айцу Вітольду Пяцельчыцу**

з нагоды 40-годдзя ад усяго сэрца перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай усемагутны Бог адорвае Цябе моцным здароўем, сілай, нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе. Няхай Маці Божая нястомна апекуецца Табой, а Дух Святы шчодра ўдзяляе свае дары.

*Мама і бліжэйшыя родныя*

**Паважаны Ксёндз Віктар Субель!**

З нагоды Дня нараджэння жадаем Вам моцнага здароўя, шчасця, святла Святога Духа, нястомнай апекі Марыі Панны. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а праца прыносіць блаславёны плён. Жадаем, каб у Вашым добрым і чулым сэрцы штодзённа жылі радасць, любоў і вера, а сіла Божага слова дапамагала быць мудрым правадніком на дарозе сапраўднага дабра.

*Касцёльны камітэт, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з касцёла Святой Тройцы ў Сурвілішках*

**Паважанаму Ксяндзу Рычарду Пэрчаку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, усіх дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою і нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля словам і жыццём.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Дзітвы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавэцкаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі і ўзмацняе на душпастырскім шляху, святы Заступнік няспынна моліцца за Вас пры алтары Пана, Маці Божая ўкрывае сваім мацярынскім плашчом, а Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам. Дзякуем за духоўную апеку, павагу да кожнага, шчырасць і цярплівасць. Заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах.

*“Легіён Марыі” з парафіі свсв. апап. Пятра і Паўла з Іўя*

**Паважаны Ксёндз Ян Гавэцкі!**

З нагоды Юбілею жадаем шчасця, радасці, сіл, моцнага здароўя, нязгаснага запалу на доўгія гады душпастырскай працы. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца і бароніць ад усякага зла, а Святы Дух шчодра напаўняе сваімі дарамі. Дзякуем за ахвярную паслугу для Бога і людзей. Жадаем, каб і надалей маглі весці верных па Божай сцежцы.

*З малітвай, парафіяне з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа на доўгія гады святарскай паслугі, нястомнай дапамогі святога Заступніка, Божай міласэрнасці, поспехаў, здароўя, душэўнага супакою і радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуляе плашчом сваёй апекі і заступаецца за Вас перад Панам.

*Парафіяльная рада і вернікі з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, стойкасці і моцы ў выкананні святарскай паслугі. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі.

*Суполка “Equipes Notre-Dame” з Субботнікаў*

**Дарагому брату Ксяндзу Яну Гавэцкаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Цяжка думкі выказаць словамі, Пяром пажаданняў аддаць харастcovering, Вымавіць тое, што ў сэрцы ўтоена... Коратка скажам: жыві 100 гадоў!

*Браты Баляслаў і Антоній з сем’ямі*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1273; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная